ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 354 Год выд. XXXVII | Сьнежань 1988

## УСЕАГУЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

### НА 40-Я ЎГОДКІ ПРЫНЯЦЬЦЯ

Усеагульная Дэклярацыя Правоў Чалавека, поўны тэкст якое зьмешчаны ў гэтым нумары «Беларуса» — адзін зь вехавых дакумэнтаў нашага стагодзьдзя. Дэклярацыя была прынятая 10 сьнежня 1948 году, яна сталася асноўною меркаю для вызначэньня ступені гуманнасьці палітычных рэжымаў; паасобныя палажэньні Дэклярацыі леглі ў аснову шмат якіх іншых міжнародных пактаў.

Артыкул 19-ты Дэклярацыі кажа: «Кожны чалавек мае права на свабоду перакананьняў і на свабоднае выражэньне іх; у гэтае права ўваходзіць свабода... шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю ды ідэі якімі хаця сродкамі і незалежна ад дзяржаўных межаў».

Хоць БССР была ў ліку дзяржаваў ААН, калі Ўсеагульная Дэклярацыя Правоў Чалавека прыймалася, тэкст гэтага вехавога дакумэнту савецкая цэнзура ўсімі сродкамі хавала ад грамадзтва Беларусі. Гэтак, прыкладам, Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя пра Дэклярацыю МАЎЧЫЦЬ. У зборніку дакумэнтаў Міністэрства замежных справаў БССР «БЕЛОРУССКАЯ ССР В МЕЖДУНАРОДНЫХ ОТНОШЕНИЯХ. Международные договоры, конвенции и соглашения Белорусской ССР с иностранными государствами (1944-1959)» (выд. АН БССР, Мінск, 1960) тэксту Ўсеагульнае Дэклярацыі Правоў Чалавека няма (у зборніку ўсіх 1050 старонак!), хоць Дэклярацыя згадваецца ў іншых дакумэнтах, зьмешчаных у кнізе (бб. 236, 246, 254).

Калі тэкст Дэклярацыі хаваўся-выкідаўся нават з гэткіх публікацыяў, як Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя, дык, пэўна-ж, яго не выдавалі й асобным выданьнем, хоць-бы для пушчаньня дыму ў вочы беларускім эмігрантам на Захадзе.

А тымчасам у гэтым дакумэньце Генэральная Асамблея заклікала «ўсе народы і ўсе дзяржавы, каб кожны чалавек і кожны орган грамадзтва, заўсёды маючы на ўвазе гэтую Дэклярацыю, імкнуліся шляхам навучаньня й адукацыі спрыяць пашане гэтых правоў і свабодаў...».

Каб не навучаць і ня спрыяць пашане правоў Чалавека, савецкі рэжым на Беларусі і хаваў ад народу Ўсеагульную Дэклярацыю Правоў Чалавека.

40-я ўгодкі прыняцьця гэтага дакумэнту, пашыранасьць яго ў самых розных мовах сьвету ды неабазнанасьць зь ім, недаступнасьць да яго на Беларусі, нагадваюць нам сёньня з новай сілай пра абыякасьць савецкае ўлады ў дачыненьні да паўніні чалавечае свабоды.

Быўшы 7-га сьнежня сёлета ў Нью-Ёрку, Генэральны Сакратар ЦК КПСС Гарбачоў сказаў, што настаў нарэшце час, калі «зачыненыя грамадзтвы» ня могуць больш існаваць у ізаляванасьці, што новая эра інфармацыйнае рэвалюцыі, а таксама «новае мысьленьне» спрыяюць патрэбнай і здаровай свабодзе доступу да фактаў, дакумэнтаў мінуўшчыны й сучаснасьці.

Пагля́дзім колькі часу зойме менскім кансэрватарам у ўрадзе БССР і ў ЦК КПБ, каб даць нарэшце беларускаму грамадзтву доступ — у ягонай роднай мове — да аднаго з найважнейшых дакумэнтаў нашага часу — Ўсеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека.

**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «БЕЛАРУС» ВІТАЕ ЎСІХ СВАІХ ЧЫТАЧОЎ З КАЛЯДНЫМІ Й НАВАГОДНІМІ СЬВЯТАМІ ДЫ ЗЫЧЫЦЬ КОЖНАМУ ДОБРАГА ЗДАРОЎЯ, ШЧАСЬЦЯ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!**

*Дакумэнты*

## ГОЛАС НАРОДНАГА СУМЛЕНЬНЯ

***Ад Рэдакцыі:*** *Ніжэй зьмяшчаем частку матар'ялу прэс-групы «Навіна», якая нефармальна існуе ў БССР. Матар'ял машынапісны, не датаваны, азагалоўлены «Голас народнага сумленьня». У ім апісваецца, як праходзіў заснавальны сход таварыства «Мартыралёг Беларусі». Дзеля нястачы месца матар'ял падаецца з прапускам.*

19 кастрычніка 1988 году а сёмай гадзіне вечара ў сталіцы Беларусі Менску, у Доме кіно пачаўся ўстаноўчы сход Беларускага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі». На сход былі запрошаныя народныя пісьменьнікі, мастакі, артысты, грамадзяне, якія ўласнай дзейнасьцю вызначылі асабістыя адносіны да сталіншчыны як да аднаго з самых антыгуманных дзяржаўна-палітычных рэжымаў у гісторыі чалавецтва. Усяго сабралася каля чатырохсот чалавек.

Хвілінай маўчаньня прысутныя ўшанавалі памяць бязьвінных ахвяраў сталінскага генацыду.

Уступным словам сход адкрыў народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў. «Мы болей ня хочам жыць, каб ня памятаць ні аб нашым гонары, так і аб нашых ахвярах, нашых пакутніках, — сказаў В. Быкаў. — Урэшце прыйшоў час сказаць людзям праўду і зрабіць зь яе пэўныя высновы. (...)

«Мы павінны скласьці велічны Мартыралёг нашых стратаў і нашых пакутнікаў. Гэта ляжа вуглавым каменем у падмурку нашай нацыянальнай сьвядомасьці, стане важным элемэнтам гістарычнай памяці і гарантам, гарантам будучыні народу, які празь генацыд, кроў і зьнявагу, з упартасьцю асуджанага, рвецца да сонца, дабра і справядлівасьці».

З паведамленьнем пра Дэклярацыю Таварыства выступіў кандыдат гістарычных навук Міхась Чарнеўскі, паведамленьне пра Статут зрабіў кандыдат мастацтвазнаўства, археоляг Зянон Пазьняк. Падчас абмеркаваньня праектаў Дэклярацыі і Статуту ўдзельнікі сходу выкрывалі жахлівыя злачынствы сталіншчыны, патрабавалі судовага працэсу над Сталінам і ягоным атачэньнем, ліквідацыі ўсялякіх «спэцфондаў» і «спэцсховішчаў», публічнага асьвятленьня работы КДБ і МУС. Выказваліся таксама канкрэтныя прапановы адносна зьменаў і дадаткаў да асобных пунктаў Дэклярацыі і Статуту.

Прамоўцы не хавалі сваіх эмоцый, і часта ў перапоўненай зале ўсталёўвалася цішыня. Час ад часу гэтае сьвятое маўчаньне парушалася цынічнымі рэплікамі арганізаваных дзеля зрыву сходу функцыянераў, якія яшчэ да пачатку занялі некалькі першых радоў залы і адмовіліся ад рэгістрацыі. Некаторыя зь іх воклічамі імкнуліся абвергнуць мэтазгоднасьць існаваньня Таварыства памяці ахвяраў сталінізму, спрабавалі зьвесьці гаворку да дэмагогіі. Выключную нявыхаванасьць прадэманстраваў намесьнік загадчыка адзьдзелу культуры ЦК КПБ, які парушаў вызначаны парадак сходу, двойчы ў часе галасаваньня патрабаваў слова, а калі нарэшце яго атрымаў, дык не знайшоў нічога лепшага, як назваць гэты сход «вещью, которая не вписывается в демократию»...

Адбыліся выбары Грамадзкай рады Таварыства. Па прапанове Васіля Быкава, старшынём Грамадзкай рады абраны Зянон Пазьняк. Намесьнікі старшыні — пісьменьнік Уладзімер Арлоў, кінарэжысэр Алег Белавусаў, мастак Уладзімер Крукоўскі, доктар гістарычных навук Вольга Белязо. Абраная таксама рэвізійная камісія.

Пакуль доўжыўся сход, у Грамадзкую раду было пададзена больш за

*(Працяг на 5-й б.)*

## ХТО СУПРАЦІВІЦЦА ПЕРАБУДОВЕ?

Тэма, зьвязаная са стварэньнем і дзейнасьцю руху, які атрымаў назву Беларускі Народны Фронт, выклікае надзвычай глыбокую і, трэба прызнаць, цалкам зразумелую зацікаўленасьць з боку грамадзкасьці. Беларусь у гэтым сэньсе — ня выключэньне. Плюралізм, свабода выказваньня думак, пошукі свайго нацыянальнага «я», аналіз сваёй нацыянальнай гісторыі — усё гэта складовыя часткі нефармальных рухаў і, у асаблівасьці, Народнага Фронту.

Стаўленьне ўладаў да Народнага Фронту вызначаецца рэзкай палярнасьцю, якая часам набывае незразумелыя і супярэчлівыя формы. Калі кіраўнікі рэспублікаў Прыбалтыкі далі «залёнае сьвятло» гэткаму руху, калі нават у далёкім Таджыкістане прыхільнікі працэсу перабудовы пайшлі сваім уласным шляхам, не сустракаючы перашкодаў з боку рэспубліканскага ЦК, дык зусім іншы малюнак назіраецца ў Беларусі. Афіцыйны Мінск яўна ня зьбіраецца прызнаваць існаваньне Народнага Фронту, які, у пэрспэктыве, пагражае многім партапаратчыкам стратай добра наседжаных крэслаў.

І тым ня менш, нважаючы на інфармацыйную блякаду, Народны Фронт Беларусі існуе. Вось што заявіў адзін зь ягоных заснавальнікаў, пісьменьнік і журналіст Васіль Якавенка:

«Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту дзейнічае. Мы стварылі ў нас на заводах і фабрыках групы падтрымкі. Мы, удзельнікі Народнага Фронту Беларусі, чакаем на дыялёг зь кіраўнікамі рэспублікі. Аднак для таго, каб правесьці ўстаноўчы сход Фронту, нам неабходны дазвол уладаў».

Пакуль што невядома, колькі жыхароў рэспублікі далучацца на гэтага руху. Аднак ужо цяпер ясна, што падтрыманьне Народнага Фронту грамадзкасьцю гарантаванае. Сьветчаньне

*(Працяг на 2-й б.)*

## МІХАСЬ КУКАБАКА НА ВОЛІ!

Заходнія газэты паведамілі 6 сьнежня, што беларускі іншадумец, шматгадовы палітычны вязень Міхал Кукабака выпушчаны на волю зь Пермскага лягеру суровага рэжыму (лягер № 35). Карэспандэнт газэты «Нью-Ёрк Таймс» А. Розэнталь паведаміў з Масквы, што Кукабаку зьвольнілі 3-га сьнежня, калі яму споўнілася 52 гады жыцьця. Але ня ўгодкі нараджэньня былі прычынай вызваленьня Кукабакі. Ход гэты быў прыстасаваны савецкімі ўладамі да прыезду Гарбачова ў Нью-Ёрк. Як зазначыў Розэнталь, гэта быў свайго роду «падарунак ад Гарбачова гораду Нью-Ёрку».

Кукабака знаходзіцца цяпер у Маскве, затрымаўся ён часова на кватэры былога палітвязьня, эканаміста Льва Цімафеева, зь якім Кукабаку давялося адзяліць у лягеры № 35 штрафную камэру.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *ХТО СУПРАЦІВІЦЦА ПЕРАБУДОВЕ?*

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

гэтаму — вялізарная папулярнасьць, якой карыстаецца дзейнасьць нефармальных арганізацыяў і, упаасобку, «Талакі». Людзі пачынаюць пераконвацца, што беларускія «нефармалы» — гэта сапраўдныя абаронцы нацыянальных і патрыятычных інтарэсаў. На адным са сходаў, праведзеным «Талакой», былі узьняты беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Нефармалы актыўна выступаюць за рэгабілітацыю нацыянальных сымбаляў, такіх, напрыклад, як знак «Пагоня». Беларускія нефармалы, у рэшце рэшт, сталі ініцыятарамі расьсьледаваньня масавых расстрэлаў у Курапатах, учыненых у пэрыядзе сталінскіх «чыстак».

Чым-жа адказвае на гэта афіцыйны Менск? Як і за нядобрай памяці часамі сталіншчыны, атакамі ў пэрыядычным друку, ярлыкамі «нацыяналістаў», «здраднікаў» і «экстрэмістаў». Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі нядвузначна дэманструе сваё няпрыняцьце ідэяў маральнага і нацыянальнага адраджэньня, бачачы ў гэтым працэсе сьмяротную пагрозу тэй агітпропаўскай кампаніі, якая на працягу дзесяцігодзьдзяў займалася насаджэньнем сталінскіх стэрэатыпаў.

Аднак часы, як вядома, мяняюцца, а разам зь імі мяняюцца і людзі. За апошнія гады Беларусы, дзякуючы выключна сваёй працы, здолелі ўзьняць узровень жыцьця, які, паводля шмат якіх сваіх паказьнікаў, перавысіў узровень у іншых саюзных рэспубліках, за выключэньнем, бадай, рэспублік Прыбалтыкі. У выніку хваля «варагаў» дакацілася і да беларускіх крамаў. Толькі «госьці рэспублікі», калі іх так можна назваць, вывозяць за межы БССР дэфіцытных тавараў штагоду на суму пяцьсот мільёнаў рублёў. З рэспублікі вывозяцца траціна мэблі і абутку ды восемдзесят працэнтаў тэлевізараў, што выпушчаюцца беларускімі прадпрыёмствамі.

Але што да нацыянальнай культуры, дык яна знаходзіцца ў катастрафічным стане. Культура, асабліва мова, сталася ахвярай праводжанага зьверху этнацыду.

Аднак усяму, як кажацца, прыходзіць канец. Прыйшоў канец і народнаму цярпеньню. Пачаткам працэсу гальванізацыі ўсеагульнага абурэньня стала выкрыцьцё масавых забойстваў у Курапацкім лесе пад Менскам, дзе ад куляў сталінскіх сатрапаў у перадваенным пэрыядзе палягло, паводля самых сьціплых падлікаў, каля трохсот тысячаў нашых суайчыньнікаў.

Вось на якой глебе ўзыйшло зерне Народнага Фронту. Вось чаму гэты рух падтрымліваецца шматпакутным беларускім народам. Бачачы гэта, партыйнае кіраўніцтва рэспублікі ўсімі сіламі імкнецца надаць працэсу нацыянальнага адраджэньня задні ход. Гэтым тлумачыцца разгон шматтысячнай дэманстрацыі 30 кастрычніка, калі менская міліцыя, каб сарваць масавы мітынг-рэквіем, пусьціла ў ход сабак і сьлезацечны газ.

Так разумее слова «дэмакратыя» афіцыйны Менск. Вядучыя партапаратчыкі рэспублікі ўстурбаваныя тым, што народ, нарэшце, паверыў у свае сілы, што ён пачынае шукаць шляхоў, якія могуць, у пэрспэктыве, прывесьці да дэмакратызацыі жыцьця, да адраджэньня нацыянальнага аблічча і ліквідацыі гістарычных «белых плямаў». І тут нельга ня выказаць абурэньня ў сувязі з пазыцыяй таварышаў зь беларускага ЦК. У суседніх рэспубліках Прыбалтыкі партыйныя кіраўнікі пайшлі ня толькі на стварэньне Народных Франтоў, якія дзейнічаюць абсалютна легальна і пры поўнай падтрымцы партапарату. У Літве, Латвіі й Эстоніі перагледжаны статус нацыянальных моваў, там аднаўленая нацыянальная сымболіка, парлямэнты рэспублік адкрыта абмяркоўваюць пытаньне сувэрэнітэту. Паказальна, што партыйнае кіраўніцтва ў Рызе, Таліне і Вільні ніякага крыміналу ў гэтым працэсе ня бачыць.

Чаму-ж Менск дэманструе радыкальна супрацьлеглае стаўленьне да нефармальнага руху? Справа ў тым, што партапарат баіцца ня вытрымаць выпрабаваньня на папулярнасьць сярод грамадзтва, якое аддае яўную перавагу менавіта нефармалам. Кіраўнікі рэспублікі — гэта кансэрватары са сталінскімі поглядамі, для якіх Народны Фронт абазначае крах ідэяў, сфармаваных і закладзеных і іхнай душы ў гадох панаваньня Сталіна і Брэжнева. І было-б наіўным чакаць, што носьбіты гэткіх поглядаў вось так раптам, за ноч, пад уплывам сьвежых дэмакратычных вятроў возьмуць ды памяняюць сваю пазыцыю. Практыка паказвае, што менавіта такія апаратчыкі і ствараюць станавы хрыбет супрацiву перабудове.

**Васіль Крупскі**

---

## КУРАПАТЫ НА АЎСТРЫЙСКІМ ТБ

У нядзелю 20 лістапада на 1-й праграме аўстрыйскага тэлебачаньня, а 7:30 увечары, каля 10 хвілінаў было прысьвечана перадачы «Курапаты». Археоляг Зянон Пазьняк, які займаўся эксгумацыяй ахвяраў у Курапатах, знаёміў аўстрыйскага карэспандэнта з Курапацкім лесам і «дарогай сьмерці», засыпанымі ўжо сьнегам. Выйшаў быў на арэну ў тым лесе і адзін малады міліцыянер, які тут-жа папярэдзіў, што ў лесе гэтым забаронена рабіць здымкі.

**У праграме тэлеперадачы паказваліся фатаздымкі чарапоў і шкілетаў, апублікаваных раней у савецкім друку, а таксама фрагмэнты ранейшай дэманстрацыі ў Курапатах (у ліпені).**

**З. Пазьняк у сваім кабінэце азнаёміў аўстрыйскага карэспандэнта з чарапамі й гільзамі ад патронаў.**

**П. У.**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ І ЎСІМ БАГАЛЮБНЫМ ПРАВАСЛАЎНЫМ ВЕРНІКАМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Дарагія Браты й Сёстры!

Вітаю ўсіх Вас з радасным вялікім сьвятам нараджэньня Госпада й Збаўцы нашага Ісуса Хрыста ад Дзевы Марыі — зь сьвятам НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТОВАГА.

У сьвятую ноч нараджэньня зьявіўся ангел пастухом, што былі на полі, і абвесьціў ім: «Вось прыношу вам дабравесьць вялікай радасьці, што будзе ўсім людзям; бо нарадзіўся вам сёньня ў месьце Давідавым Спас — Хрыстос Госпад» (Лк. 2:10-11).

Яшчэ прарок Ісая, каля 70 гадоў да нараджэньня Хрыста, прадказваў Ягоны прыход гэтак: «Вось Дзева зачне й народзіць Сына і дасьць імя Яму Эмануэль» (Ісая 7:14). Сьвяты евангеліст і апостал Мацей кажа: «А ўсё гэта сталася, каб споўнілася сказанае Госпадам праз прарока», і тлумачыць, што «Эмануэль» значыць «з намі Бог» (Мц. 1:23).

Бог, дарагія мае, прыйшоў на гэты сьвет у целе Чалавека. Сьв. Ян кажа: «Слова сталася целам і пасялілася між нас (і мы бачылі Славу Ягоную, славу як адзінароднага ад Айца), поўнае ласкі й праўды» (Ян 1:14).

Алé, з намі Бог: Ён сярод нас, Ён памагае нам пераносіць цяжар, ачышчае нас ад грэху, накіроўвае нас на жыцьцё, што мае вартасьць.

Недаступная нашаму розуму таямніца супольнасьці Бога й Чалавека ў аднэй асобе. Няхай-жа гэта застаецца існасьцю веры нашай, што Ісус Хрыстос, Хто ляжаў у яслях, быў ношаны на руках жанчынай, жыў пакутнае жыцьцё ды памёр на крыжы, быў аднак і ёсьць цалкам Бог, дабраслаўлёны навекі.

Узбуджальная радасьць, бо з намі Бог! І гэта вартае магутнага сьпеву: «Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой у людзей добрае волі» (Лк. 2:14). Гэта вартае таго, што прадбачыў прарок, вартае новае зоркі на небе. Таксама вартае пакутніцкае сьмерці апосталаў і нязьлічонае колькасьці пакутнікаў, што не шкадавалі свайго жыцьця за веру ў Бога. З намі Бог!

Нядаўна адзін беларускі камсамолец, Уладзімер Л., прызнаўся ў часапісе «Крыніца» (№ 9), што ён пачаў наведваць храм Божы, спачатку зь цікавасьці, а пасьля прыняў праваслаўную веру. Ён кажа: «Царква вучыць, што ўсе людзі падобныя да Бога, што, калі кінуць семя на ўрадлівую глебу, то будзе цудоўны ўраджай — калі чалавек будзе імкнуцца быць падобны да Бога, ён дасягне дасканаласьці». Студэнт мэдыцыны, узгадаваны ў строга бязбожнай сыстэме, прыйшоў да супольнасьці з Богам. Атэізм ня мог задавольніць чулую душу адукаванага маладога чалавека, бо душа патрабуе, каб зь ёю быў Бог. Госпадзе, Божа наш, слава Табе!

Той, што нарадзіўся ў Бэтлееме, ёсьць Бог і Ён між людзей знаходзіцца. Бог у Хрысьце. Ён бярэ на Сябе прыроду Свайго стварэньня, увахадзіць у супольнасьці із Сваім падуладным, яднаецца із слабым і сьмяротным. З намі Бог! Ён прыняў цела ад Дзевы Марыі і стаўся Чалавекам. З намі Бог на гэтым сьвеце і вечна ў будучым жыцьці.

Дарагія Браты й Сёстры, будзем-жа радасна славіць Яго, Госпада й Збаўцу нашага, нованароджанага Ісуса Хрыста, ды напоўнімся сьвятлом Ягоным праз моц Сьвятога Духа, бо з намі Бог. Запраўды так.

Таронта, Канада
Сьнежань, 1988 г.

**Архіепіскап Мікалай**
**Першагіерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне**

---

*Дакумэнты*

## РАСКРЫЦЬ СУВЭРЭНІТЭТ БССР

У праекце «Звароту ініцыятыўнае групы Канфэдэрацыі беларускіх суполак да беларускае моладзі» (напісаным паўгоду пасьля таго, як у сьнежні летась адбыўся першы Вальны сойм нефармальных суполак) ёсьць разьдзел пад заг. «Сувэрэнітэт Рэспублікі». У ім сказана:

«З Канстытуцыяў БССР і СССР вынікае, што Беларуская ССР — гэта сувэрэнная дзяржава. На практыцы гэтага сувэрэнітэту ня існуе. Мы лічым, што толькі фактычны сувэрэнітэт забясьпечыў-бы гармонію інтарэсаў БССР і іншых рэспублік, што ўваходзяць у СССР, і дазволіў-бы без цэнтралізатарскіх шаблёнаў ажыцьцяўляць у нашай рэспубліцы найбольш адпаведныя ейнай спэцыфіцы палітычныя, эканамічныя і культурныя праграмы. Думаем, што рэальны сувэрэнітэт БССР і іншых саюзных рэспублік прывядзе да сапраўднага, не паказнога адзінства народаў у іхніх адносінах да галоўных задачаў сучаснасьці. Для гэтага неабходна:

1. Раскрыць статус сувэрэннасьці Беларускай БССР у Канстытуцыях БССР і СССР. Каардынацыя супольных зь іншымі саюзнымі рэспублікамі палітычных, эканамічных і культурных праграмаў павінна адбывацца на шматбаковай (праз агульнасаюзныя органы) або двух- трохбаковай аснове з агульнае згоды рэспублік.

2. Распрацаваць статус рэспубліканскага грамадзянства. Вызначыць правы і абавязкі грамадзяніна БССР.

3. Пашырыць непасрэднае прадстаўніцтва БССР у міжнародных палітычных, эканамічных, культурных, спартовых і інш. арганізацыях. Прадстаўнікі БССР у ААН павінны абірацца пад грамадзкім кантролем.

---

### НА СУСЬВЕТНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ Ў ЖЭНЭВЕ

Дэлегаты Беларускага Вызвольнага Фронту, ст-ва Дзьмітры й Надзея Касмовічы ўзялі ўдзел у канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі, што праходзіла пад дэвізам «Свабода перш за ўсё».

Канфэрэнцыя адбылася ў Жэнэве 25-30 травеня сёлета. На ёй было больш за 300 дэлегатаў з 120 краінаў. Сп. Д. Касмовіч быў абраны за намесьніка старшыні Другой камісіі, якая разглядала пытаньні нацыянальных і грамадзянскіх праваў у краёх Усходняй Эўропы.

Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю ў падтрыманьне нацыянальнай незалежнасьці Беларусі.

***(Паводля прэсавых матар'ялаў Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі).***

# У ГОНАР НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

Паэзія ўсячасна маладая. Гэтак і нашая паэтка Натальля Арсеньнева — заўжды маладая, вясёлая, жыцьцярадасная. Такое было ўражаньне ўсіх, што сабраліся 19-га лістапада ў Нью-Ёрку, каб адсьвяткаваць 85-ыя ўгодкі народзінаў Натальлі Арсеньневай (нарадзілася паэтка 20 лістапада 1903 г.).



*Юбілянтка разглядае віншавальную картку. Зьлева: сп-ня Яніна Каханоўская, справа: сп-ня Ірэна Цупрык. Фота Надзі Кудасавай.*

Спаткалі юбілянтку зь вялікім традыцыйным караваем, які сьпякла Надзя Кудасава, ды з кветкай-архідэяй. Гэтыя сымбалі здароўя, памыснасьці, плёну ды прыгажосьці гэтак добра адлюстравалі пажаданьні й настрой, у якім і прайшла імпрэза.

Др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, распачаў урачыстасьць ды прывітаў юбілянтку, адзначыўшы вялікія юбілеі ды падзеі сёлетняга году: 1000-годзьдзе хрысьціянства, Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, нацыянальны ўзым на Бацькаўшчыне ды юбілей Натальлі Арсеньневай. Творы нашай паэткі — адзін з найбольшых дароў, што Беларусы атрымалі ў XX-м стагодзьдзі.

Артыстка Ірэна Цупрык, якая здаўна любіла й надзвычайна ўдала перадавала паэзію Натальлі Арсеньневай, пацешыла прысутных дэклямаваньнем вершаў паэткі з розных пэрыядаў. Асабліва прыпаў да сэрца ўсім верш «Ня плачце», напісаны паэткаю ўжо на эміграцыі.

Разглядзець багатую спадчыну Н. Арсеньневай ды аддаць ёй належнае — справа ня лёгкая. Др. Янка Запруднік аднак патрапіў зрабіць гэта вельмі ўдала. Ён у сваім аглядзе адзначыў галоўнае: пачуцьцё патрыятызму, любові да сваёй краіны, да яе прыроды было «запраграмаванае» ўжо з самага раньняга, лірычнага пэрыяду паэзіі Арсеньневай. Тады-ж акрэсьлілася й філязофія жыцьця й творчасьці паэткі: «Мэта жыцьця — захаваць жыцьцё», «хоць сумаваць, а жыць», «будзем чакаць вясны!»

Сп. Шукелайць, старшыня галоўнай управы БАЗА, гаворачы пра Натальлю Арсеньневу 1920-х-30-х гадоў, падкрэсьліў ня толькі высокую вартасьць ейнай паэзіі, якая, сказаў прамоўца, стаяла на ўзроўні лепшых твораў польскай паэзіі, але й адзначыў надзвычайны ўклад паэткі ў беларускае грамадзкае жыцьцё.

Разважаючы тут пра ацэнку паэзіі Арсеньневай да перабіраючы ў памяці ейныя вершы, прышло на думку, што Арсеньневу можна залічыць да паэтаў-імажыстаў. Вобразнасьць ейнай паэзіі асабліва яскрава выразілася ў раньняй, а пазьней у эміграцыйна-амэрыканскай творчасьці. Амаль на кожны ейны верш мажна намаляваць абраз, прыкладам,

Вятраны змрок ... Старыя вербы
над рэчкай пранікамі пяраць
па шэрай воднай палатніне.
Ўгары, праз хмараў рэдкіх шчэрбы,
зіркае месяц круглатвары,
зялёна-сіні.

Паэзія Н. Арсеньневай, асабліва ейныя патрыятычныя вершы, паэзія для Бацькаўшчыны, заўсёды падбадзёрвала, заўсёды натхняла. Гэта асабліва яскрава выразілася ў выступленьнях удзельнікаў вечару ды ў шматлікіх прывітаньнях, перасланых суродзічамі, што не змаглі пэрсанальна падзяліць з паэткай радасьць сустрэчы. Словамі паэта Міхася Машары прывіталі паэтку ейныя сябры й суседзі з Рочэстару, сп-тва Казлоўскія:

«Твая душа сатканая зь вясёлак і зарніц
І песьняй акупаная вадой сямі крыніц.
... Дачка Радзімы шчырая,
І там ў сям'і чужой
ты служыш звонкай ліраю
Краіне маладой».

«Дзякуй Богу за Вас, за Вашыя песьні, за працу! Праўду кажаце:

Скрозь бо зь песьняй сонца сьвеціць,
скрозь бо зь ёй іскрыцца радасьць.
Бо бязь песьні ўжо ня жыць
нам...»

— прывіталі Н. Арсеньневу сям'я Махначоў-Чарнэцкіх.

«Вялікім дасягненьнем Вашае працы было апублікаваньне яе добрым выданьнем кніжкі 'Між берагамі'. Гэта запраўды гістарычная публікацыя, празь якую цяпер могуць любавацца Вашай творчасьцю ўсе Беларусы», — зазначылі ў сваім прывітаньні Беларусы з Клiўленду.

Дарэчы тут зазначыць, што на ўрачыстасьці паэтка падпісала ці мала экзэмпляраў свае кнігі, асабліва вялікую колькасьць для суродзічаў на Беласточчыне.

«Жыві-ж сто год нам, Юбіляр,
Дый болей,
калі ахвоту маеш!»

— віталі Натальлю Арсеньневу сп-тва Жук-Грышкевічы ейнымі-ж словамі, але сьціраваньні гэтым разам да яе самой. «Няхай жыве шмат год» — было напісана й на традыцыйным торце, ды адгукнуліся з пажадальнай песьняй і ўсе прысутныя.

На разьвітаньне засьпявалі малітву «Магутны Божа», якую напісаў на словы Натальлі Арсеньневай кампазытар Мікола Равенскі. Ці не ў аднаго блiснулі сьлёзы на вачох, бо кожны разумеў, што быў у прысутнасьці вялікай асобы, вялікай паэткі.

Скончыўся адзін з самых прыемных літаратурных вечароў.

Што-ж, дабранач!
Набрынялі вейкі...
Вартых сьненьня сноў
ня сьнілі мы даўно —
можа сёньня ўсё-ж
прысьніцца
нейкі?

**Зора Кіпель**

## Натальлю Арсеньневу віталі:

У адзначэньні юбілею Н. Арсеньневай узялі ўдзел або прыслалі прывітаньні наступныя арганізацыі і асобы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (ЗША і Канада), Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Рада БНР, БАПЦ (Архіепіскап Мікалай), Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне, Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага, Жаночае Згуртаваньне ў гарадох Клiўлендзе й Нью-Ёрку, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (адздзелы Клiўленд, Нью-Ёрк і Нью-Джэрзі), Бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане, Грамадзкі Цэнтр Полацак, Асацыяцыя Беларусаў Штату Ілліной, Беларускі Вызвольны Фронт (Нямеччына), Фэдэральная Рада Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, Згуртаваньне Беларусаў Канады, Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі, Беларуская Грамада ў Мюнхэне, др. Вінцэнт і др. Раіса Жук-Грышкевічы, др. Я. Сажыч, Я. Ханенка, С. Карніловіч, К. Калоша, К. Каляда, Н. Орса, др. В. Тумаш, А. Адамовіч, Т. Кольба, Л. Маркоўская, В. Страпко, Я. Каваленка, А. і Л. Бяленісы, М. і О. Тулейка, В. і Д. Заруцкія, Д. і Н. Касмовічы, П. і Н. Кулеш, Я. Арцюх, М. Скабей, А. Груша, др. Ул. Набагез, Я. і І. Сурвілы, К. Акула, В. і. Л. Казлоўскія, Я. Юхнавец, А. Чарнэцкая, В. і М. Махнач, В. Сянкевіч, Ул. Цьвірка, др. В. Рамук, В. Рамук, Ч. і Ю. Найдзюкі, М. Нікан, В. Саўчук, А. Міцкевіч, І. і Т. Паланевіч, В. і З. Кіпель, А. Шукелайць, Я. Запруднік, А. і П. Рамана, В. Сельвесюк, М. і Н. Рагуля, Р. Станкевіч, К. і Г. Мяряк, С. і Л. Гутырчык, В. і Г. Русак, З. Туронак, В. Макац, М. Прускі, А. Дубовік, В. Кажан, К. і М. Верабей, Н. Кудасава, І. Цупрык, Ф. і В. Бартуль, Я. Каханоўская, Б. Даніловіч.

*Паведамляем нашым чытачом, што яшчэ ёсьць колькі экзэмпляраў нераспрададзенага зборніка Натальлі Арсеньневай «Ля чужых берагоў». Цана кніжкі 20 дал., а выпісаць яе можна праз газэту «Беларус».*

## ПАДЗЯКА

Ад шчырага сэрца дзякую ўсім арганізатарам і ўдзельнікам вечару-банкету на мае 85-я ўгодкі жыцьця, што адбыўся ў Нью-Ёрку 19 лістапада. Дзякую таксама тым, хто прыслаў мне асабіста і на рукі ўправаў БІНіМ, БАЗА ды рэдакцыі «Беларуса» віншаваньні для мяне ды пажаданьні ўсяго найлепшага. Ад усяго, што я пачула й пабачыла, веяла цяплынёй і сардэчнасьцяй, і гэта назаўсёды застанецца ў маёй памяці ды будзе дадаваць мне і добрага настрою і сілаў да працы. Асобна хачу падзякаваць маёй дарагой сяброўцы Яні (Каханоўскай), зь якой я сяброую яшчэ зь Менску, ды сям'і Паўла й Юлі Андрусышыных за цёплую гасьціннасьць у часе майго побыту у Нью-Ёрку.

**Натальля Арсеньнева**

## ЗЬ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ У ААН

**Пэрт, Зах. Аўстралія.** — Аўстралійская Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў (ААAН), адна з мэтаў якое падтрымліваць і пашыраць ідэалы ААН, мае шэсьць штатных адзьдзелаў і належыць да Фэдэрацыі Аб'еднаных Нацыяў, сядзіба якое знаходзіцца ў Жэнэве ў Швэйцарыі.



*Беларуская дэлегацыя з нацыянальным сьцягам на парадзе адзначэньня ўгодкаў ААН у гор. Пэрце, Зах. Аўстралія.*

Заходняаўстралійскі адздзел ААAН адзначыў 24 кастрычніка сёлета 43-я ўгодкі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў урачыстасьцяй падняцьця сьцягу ААН і парадам сьцягоў розных народаў. Узяць удзел у ўрачыстасьці былі запрошаныя дзьве аркестры, прадстаўнікі сярэдніх школаў, адздзел заходня-аўстралійскай паліцыі, які нёс службу з войскам ААН на Кіпры, ды іншыя групы. Меўся быць на ўрачыстасьці і сьцяг БССР. Дзеля таго аднак, што пасольства СССР, да якога арганізатары зьвярнуліся, савецкіх сьцягоў ня прыслала, на парад была запрошаная мясцовая беларуская група, якая пайшла зь бел-чырвона-белым сьцягам.

На парадзе за аркестрай скаўты несьлі 55 сьцягоў некамуністычных краінаў ААН, а беларуская дэлегацыя у складзе сп-ні М. Мароз, Е. Дамброўскай і сп. М. Р., у нацыянальнай вопратцы, ішла з сваім нацыянальным сьцягам.

На ўрачыстасьці прадстаўнік ААAН у Зах. Аўстраліі прачытаў прывітальны ліст ад Генэральнага Сакратара ААН. Быў узьняты сьцяг ААН. Закончылася сьвяткаваньне нацыянальным танцам Інданэзійцаў. Адбылося пачастунак для ўдзельнікаў.

Усе групы былі запрошаныя на адзначэньне 44-х цгодкаў ААН, якія адбудуцца 24.X.1989 году.

**Р. М.**

# УСЕАГУЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

ПРЭАМБУЛА

*Бяручы пад увагу,* што прызнаньне годнасьці, якая ўласьцівая ўсім членам людзкое сям'і, ды роўных і неад'емных правоў, становіць аснову свабоды, справядлівасьці й агульнага міру: і

*бяручы пад увагу,* што занядбаньне й пагарда да правоў чалавека прывялі да варварскіх актаў, якія абураюць сумленьне чалавецтва, ды што стварэньне такога сьвету, у якім людзі будуць мець свабоду слова й перакананьняў ды будуць вольныя ад страху й нястачаў, абвешчана як высокае імкненьне людзей; і

*бяручы пад увагу,* што неабходна, каб правы чалавека ахоўваліся сілаю закону з мэтай забясьпечаньня таго, каб чалавек ня быў змушаны ўжываць бунту, як апошняга сродку, супраць тыраніі ды ўціску; і

*бяручы пад увагу,* што неабходна спрыяць разьвіцьцю прыязных дачыненьняў паміж народамі; і

*бяручы пад увагу,* што народы Аб'еднаных Нацыяў пацьвердзілі ў Статуце сваю веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасьць і каштоўнасьць чалавечай асобы і ў роўнасьць мужчынаў і жанчын ды пастанавілі спрыяць сацыяльнаму прагрэсу й палепшаньню ўмоваў жыцьця пры большай свабодзе; і

*бяручы пад увагу,* што дзяржавы-члены забавязаліся спрыяць, у супрацоўніцтве з Арганізацыяй Аб'еднаных Нацыяў, усеагульнай пашане ды захаваньню правоў чалавека й асноўных свабодаў; і

*бяручы пад увагу,* што агульнае разуменьне характару гэтых правоў і свабодаў мае вялізарнае значаньне для поўнага выкананьня гэтага забавязаньня,

ГЕНЭРАЛЬНАЯ АСАМБЛЕЯ

*абвяшчае гэтую*

ЎСЕАГУЛЬНУЮ ДЭКЛЯРАЦЫЮ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА як агульнае заданьне, да выкананьня якога павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы, каб кожны чалавек і кожны орган грамадзтва, заўсёды маючы на ўвазе гэтую Дэклярацыю, імкнуліся шляхам навучаньня й адукцыі спрыяць пашане гэтых правоў і свабодаў ды забясьпечаньню, шляхам нацыянальных і міжнародных прагрэсыўных захадаў, усеагульнаму й эфэктыўнаму прызнаньню і зьдзейсьненьню як сярод народаў дзяржаваў-членаў Арганізацыі, гэтак і сярод народаў тых тэрыторыяў, што знаходзяцца пад іхнай юрысдыкцыяй.

*Артыкул 1.* Усе людзі родзяцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасьці і ў правах. Яны надзеленыя розумам і сумленьнем ды павінны дзеяць у дачыненьні адзін да аднаго ў духу братэрства.

*Артыкул 2.* Кожны чалавек павінен мець усе правы і ўсе свабоды, абвешчаныя гэтай Дэклярацыяй, незалежна ад расы, колеру скуры, полу, роду, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананьняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжаньня, маемаснага, станавага або іншага палажэньня.

Апрача таго, не павінна праводзіцца ніякае розьніцы на аснове палітычнага, праўнага або міжнароднага статусу краіны або тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незважаючы на тое, ці гэтая тэрыторыя незалежная, падапечная, несамакіраўнічная, або як-небудзь інакш абмежаваная ў сваім сувэрэнітэце.

*Артыкул 3.* Кожны чалавек мае права на жыцьцё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасьць.

*Артыкул 4.* Ніхто не павінен трымацца ў рабстве ці ў паднявольным стане, нявольніцтва й гандаль нявольнікамі забараняюцца ўва ўсіх іхных формах.

*Артыкул 5.* Ніхто не павінен быць паддаваны катаваньням або жорсткім, бесчалавечным ці гэткім абыходжаньню й пакараньню, што зьневажаюць ягоную годнасьць.

*Артыкул 6.* Кожны чалавек, дзе-б ён ні знаходзіўся, мае права на прызнаньне ягонае правасуб'ектнасьці.

*Артыкул 7.* Усе людзі роўныя перад законам і маюць права безь якое ні было-б розьніцы на роўную абарону іх законам. Усе людзі маюць права на роўную абарону ад якое-б там ні было дыскрымінацыі, што парушае гэтую Дэклярацыю, і ад якога-б там ні было падбухторхваньня да гэткае дыскрымінацыі.

*Артыкул 8.* Кожны чалавек мае права на эфэктыўнае аднаўленьне ў правох кампэтэнтнымі нацыянальнымі судамі ў выпадку парушэньня ягоных асноўных правоў, дадзеных яму канстытуцыяй ці законам.

*Артыкул 9.* Ніхто ня можа быць падданы адвольнаму арышту, затрыманы або выгнаны.

*Артыкул 10.* Кожны чалавек, для вызначэньня ягоных правоў і абавязкаў і для ўстанаўленьня абгрунтаванасьці пастаўленага яму крымінальнага абвінавачаньня, мае права, на аснове поўнай роўнасьці, на тое, каб ягоная справа была разгледжаная публічна і з датрыманьнем усіх вымогаў справядлівасьці незалежным і бесстаронным судом.

*Артыкул 11.* 1. Кожны чалавек, абвінавачаны ў выкананьні злачынства, мае права ўважацца за невінаватага датуль, пакуль ягоная вінаватасьць ня будзе ўстаноўленая законным парадкам шляхам публічнага судовага разгляду, пры якім яму забесьпячаюцца ўсе магчымасьці для абароны.

2. Ніхто ня можа быць засуджаны за злачынства на аснове ўчыненьня якога-небудзь дзеяньня ці за бязьдзеяньне, якія ў часе іхнага ўчыненьня не станавілі злачынства паводля нацыянальных законаў ці паводля міжнароднага права. Ня можа таксама накладацца пакараньне цяжэйшае за тое, якое магло-б быць ужытае ў тым часе, калі злачынства было зробленае.

*Артыкул 12.* Ніхто ня можа быць падданы адвольнаму ўмяшаньню ў ягонае асабістае і сямейнае жыцьцё, адвольнаму пасяганьню на недатыкальнасьць ягонага жыльля, таямніцу ягонае карэспандэнцыі або на ягоны гонар і рэпутацыю. Кожны чалавек мае права на абарону з боку закону ад такога ўмяшаньня ці такіх пасяганьняў.

*Артыкул 13.* 1. Кожны чалавек мае права свабодна перамяшчацца і абіраць сабе месца пражываньня ў межах кожнае дзяржавы.

2. Кожны чалавек мае права пакідаць якую-хаця краіну, у тым ліку і сваю ўласную, і варочацца ў сваю краіну.

*Артыкул 14.* 1. Кожны чалавек мае права шукаць прытулку ад перасьледваньня ў іншых краінах і карыстацца гэтым прытулкам.

2. Гэтае права ня можа быць выкарыстанае ў выпадку перасьледваньня, якое ў запраўднасьці вынікае з выкананьня непалітычнага злачынства або дзеяньня, супярэчнага мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

*Артыкул 15.* 1. Кожны чалавек мае права на грамадзянства.

2. Ніхто ня можа быць адвольна пазбаўлены свайго грамадзянства або права зьмяніць сваё грамадзянства.

*Артыкул 16.* 1. Мужчыны й жанчыны, што дасягнулі паўналецьця, маюць права без усякіх абмежаваньняў паводля адзнакі расы, нацыянальнасьці або рэлігіі, уваходзіць у шлюб і засноўваць сям'ю. Яны карыстаюцца аднолькавымі правамі што да ўзяцьця шлюбу, у часе знаходжаньня ў шлюбе і пры скасаваньні яго.

2. Шлюб можа быць заключаны толькі пры свабоднай і поўнай згодзе або двух бакоў, што ўваходзяць у шлюб.

3. Сям'я — натуральная і асноўная ячэйка грамадзтва і мае права на абарону з боку грамадзтва і дзяржавы.

*Артыкул 17.* 1. Кожны чалавек мае права валодаць маемасьцяй як аднаасабова, гэтак і супольна зь іншымі.

2. Ніхто не павінен быць адвольна пазбаўлены свае маемасьці.

*Артыкул 18.* Кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумленьня і рэлігіі; у гэтае права ўваходзіць свабода зьмяняць сваю рэлігію ці перакананьні і свабода вызнаваць сваю рэлігію і перакананьні як аднаасабова, гэтак і супольна зь іншымі, публічным або прыватным парадкам, у вучэньні, багаслужбе ды выкананьні рэлігійных і рытуальных абрадаў.

*Артыкул 19.* Кожны чалавек мае права на свабоду перакананьняў і на свабоднае выражаньне іх; у гэтае права ўваходзіць свабода бесьперашкодна трымацца сваіх перакананьняў і свабода шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю ды ідэі якімі-хаця сродкамі і незалежна ад дзяржаўных межаў.

*Арткул 20.* 1. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцыяў.

2. Ніхто ня можа быць змушаны ўваходзіць у якую-небудзь асацыяцыю.

*Артыкул 21.* 1. Кожны чалавек мае права браць удзел у кіраўніцтве сваёй краінай беспасярэдня або праз свабодна абраных прадстаўнікоў.

2. Кожны чалавек мае права роўнага доступу да дзяржаўнай службы ў сваёй краіне.

3. Воля народу павінна быць асновай улады ўраду; гэтая воля павінна выяўляцца ў пэрыядычных і нефальсыфікаваных выбарах, якія павінны праводзіцца пры ўсеагульным і роўным выбарчым праве, шляхам тайнага галасаваньня або шляхам іншых раўназначных формаў, што забясьпечваюць свабоду галасаваньня.

*Артыкул 22.* Кожны чалавек, як член грамадзтва, мае права на сацыяльнае забясьпечаньне і на зьдзейсьненьне неабходных для падтрыманьня ягонае годнасьці і для свабоднага разьвіцьця ягонае асобы правоў у эканамічнай, сацыяльнай і культурнай галінах праз нацыянальныя намаганьні і міжнароднае супрацоўніцтва ды ў адпаведнасьці са структурай і рэсурсамі кожнай дзяржавы.

*Артыкул 23.* 1. Кожны чалавек мае права на працу, на свабодны выбар працы, на справядлівыя й спрыяльныя ўмовы працы ды на ахову ад беспрацоўя.

2. Кожны чалавек безь якой-бы там ні было дыскрымінацыі мае права на роўную аплату за роўную працу.

3. Кожны, хто працуе, мае права на справядлівае і задавальняючае ўзнагароджаньне, якое забясьпечвае годнае чалавека існаваньне для яго самога і ягонае сям'і, і якое, пры неабходнасьці, дапаўняецца іншымі сродкамі сацыяльнага забясьпечаньня.

4. Кожны чалавек мае права ствараць прафэсійныя саюзы і ўваходзіць у прафэсійныя саюзы для абароны сваіх інтарэсаў.

*Артыкул 24.* Кожны чалавек мае права на адпачынак і на вольны час, у тым ліку права на разумнае абмежаваньне працоўнага дня ды на аплочваны пэрыядычны водпуск.

*Артыкул 25.* 1. Кожны чалавек мае права на такі жыцьцёвы ўзровень, у тым ліку на ежу, вопратку, жыльлё, мэдыцынскі догляд і патрэбнае сацыяльнае абслугоўваньне, які неабходны для падтрыманьня здароўя і дабрабыту яго самога і ягонае сям'і, ды мае права на забясьпечаньне на выпадак беспрацоўя, хваробы, інваліднасьці, удоўства, надыходу старасьці або іншага выпадку страты сродкаў да існаваньня зь незалежных ад яго абставінаў.

2. Мацярынства й дзяцінства даюць права на асаблівую апеку і дапамогу. Усе дзеці, што нарадзіліся ў шлюбе або бяз шлюбу, павінны карыстацца аднолькавай сацыяльнай аховай.

*Артыкул 26.* 1. Кожны чалавек мае права на адукацыю. Адукацыя павінна быць дармавой, прынамся, адукацыя пачатковая і агульная. Пачатковая адукацыя павінна быць абавязкавай. Тэхнічная і прафесійная адукацыя павінна быць агульнадаступнай, і вышэйшая адукацыя павінна быць аднолькава даступнай для ўсіх на аснове здольнасьцяў кожнага.

2. Адукацыя павінна быць накіраваная да поўнага разьвіцьця чалавечай асобы і да збольшаньня паважаньня правоў чалавека й асноўных свабодаў. Адукацыя павінна спрыяць узаемаразуменьню, цярпімасьці і дружбе паміж усімі народамі, расавымі або рэлігійнымі групамі ды павінна спрыяць дзейнасьці ААН для падтрыманьня міру.

3. Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей.

*Артыкул 27.* 1. Кожны чалавек мае права свабодна ўдзельнічаць у культурным жыцьці грамадзтва, цешыцца мастацтвам, удзельнічаць у навуковым прагрэсе і карыстацца ягонымі дасягненьнямі.

2. Кожны чалавек мае права на абарону ягоных маральных і матар'яльных інтарэсаў, што вынікаюць з навуковых, літаратурных або мастацкіх працаў, аўтарам якіх ён зьяўляецца.

*Артыкул 28.* Кожны чалавек мае права на нацыянальны і міжнародны парадак, пры якім правы і свабоды, выкладзеныя ў гэтай Дэклярацыі, могуць быць поўнасьцяй ужыцьцёўленыя.

*Артыкул 29.* 1. Кожны чалавек мае абавязкі перад грамадзтвам, у якім толькі і магчымае свабоднае ды поўнае разьвіцьцё ягонае асобы.

2. Пры ўжыцьцяўляньні сваіх правоў і свабодаў, кожны чалавек будзе паддадзены толькі такім абмежаваньням, якія ўстаноўленыя законам выключна ў мэтах забясьпечаньня патрэбнага прызнаньня ды пашаны правоў і свабодаў іншых людзей і задавальненьня справядлівых патрабаваньняў маралі, грамадзкага парадку й агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадзтве.

3. Ужыцьцяўляньне гэтых правоў і свабодаў ні ў якім выпадку не павінна супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

*Артыкул 30.* Нічога ў гэтай Дэклярацыі ня можа быць вытлумачана як даваньне якой-хаця дзяржаве, групе асобаў або асобным людзям права займацца якой-небудзь дзейнасьцю або рабіць дзеяньні, скіраваныя на зьнішчэньне правоў і свабодаў, абвешчаных у гэтай Дэклярацыі.

**Прынятая Генэральнай Асамблеяй 10 сьнежня 1948 г.**

## МОЛАДЗЬ ЗМАГАЕЦЦА ЗА СЬЦЯГ

На вялікім мітынгу ў Доме палітычнай асьветы ў Менску 22 кастрычніка сёлета, на якім дэбатавалася пытаньне стварэньня Народнага фронту ў падтрыманьне «перабудовы», рабочы й адначасна студэнт менскага прамыслова-тэхнічнага вучылішча А. Сяргееў расказаў пра гэткі выпадак (з асуджэньнем яго):

«Нядаўна ў нашым вучылішчы былі госьці — выступалі ансамблі 'Мроя', 'Рэй' і нікому ня вядомая група 'Мясцовы час' з Горадні. Там-ж круціліся хлопцы з 'Талакі'. Калі падлеткі адурэлі ад страшэннага грукату, паявіўся на сцэне малады чалавек і пачаў размахваць бел-чырвона-белым флагам — сымбалам беларускіх буржуазных нацыяналістаў. А салісты скандавалі: 'Вайна — паляваньне', 'Вы за калючым дротам!' І так паўтаралася шматразова». *(«Зьвязда», 27.X.88)*



*«У наш час 'Пагоня' зьяўляецца элемэнтам гэрбу гораду Беластоку, дзе ці ня большасьць насельніцтва — Беларусы. Фірменны поезд Беласток — Варшава называецца 'Пагоня'».* — Г. Штыхаў, «ЛіМ», 11.XI.88.

## ГОЛАС НАРОДНАГА СУМЛЕНЬНЯ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

200 індывідуальных і калектыўных заяваў з просьбай прыняць у Беларускае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі».

Падчас выступленьняў прамоўцамі неаднаразова выказвалася прапанова ўтварыць Беларускі Народны Фронт у падтрымку перабудовы і дэмакратызацыі. Прыкладна ў 22 гадзіны 15 хвілін Зянон Пазьняк ставіць на галасаваньне прапанову стварыць пры Таварыстве «Мартыралёг Беларусі» Арганізацыйны камітэт для стварэньня Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне», якая была сустрэта авацыяй залы.

У абраны сходам Аргкамітэт БНФ за перабудову «Адраджэньне» ўвайшлі: пісьменнікі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч і Міхал Дубянецкі; публіцыст Васіль Якавенка, дактары гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч і Міхась Ткачоў, мовазнаўца Пятро Садоўскі, рэжысэр Валеры Масьлюк, матэматык Юра Дракахруст і іншыя.

А 24-й гадзіне сход закончыў работу.

**Ад Рэдакцыі «Беларуса»:** У газэце «Літаратура і Мастацтва» (28.X) апублікаваная справаздача пра ўстаноўную канфэрэнцыю таварыства «Мартыралёг Беларусі» (там-жа зьмешчанае і ўступное слова Васіля Быкава). У справаздачы названыя таксама іншыя асобы, што ўвайшлі ў Грамадзкую раду новага таварыства, і гэта паказвае на шырокі абсяг гэтага руху. У Грамадзкую раду «Мартыралёгу», апрача названых у паведамленьні прэс-групы «Навіна», увайшлі: народны пісьменьнік В. Быкаў, паэты й празаікі Р. Барадулін, С. Грахоўскі, У. Дамашэвіч (ягоную драматычную прамову на пленуме СП Беларусі гл. у «Беларусе № 352), С. Законьнікаў (рэдактар часапісу «Полымя»), М. Дубянецкі (старшыня гісторыка-мэмарыяльнай камісіі Беларускага Фонду Культуры), драматург А. Дудараў, актор-купалавец В. Манаеў, кінарэжысэры А. Белавусаў і М. Пташук, кампазытар А. Рашчынскі, мастакі У. Крукоўскі, А. Марачкін, філёзаф і гісторык У. Конан, гісторыкі М. Ткачоў, М. Чарняўскі, матэматык Ю. Дракахруст, інжынер Я. Шмыгалёў, вэтэран вайны й працы, былы партыйны працаўнік В. Лашковіч ды іншыя — усіх 30 асобаў.

*Стэнаграма*

## ДАНОС НА АН БССР У ЦК КПСС

*(На пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі 20.V.88 г. віцэ-прэзыдэнт АН БССР Іван Навуменка ў сваім даўжэйшым выступленьні, якое мы спадзяёмся апублікаваць, між іншага, сказаў):*

Дык вось, таварышы, тут вы крытыкуеце Акадэмію Навук зьлева. Но я вам мушу сказаць, што кожная наша кніжка, кожнае наша больш-менш, так сказаць, справядлівае выступленьне суправаджаецца таксама наветамі справа. Вот сёньня, скажам, паслана тэлеграма ў Маскву: «Спыніце рэабілітацыю Ігнатоўскага».

Сёньня ўсе акадэмічныя інстытуты грамадзкага профіля правяраюць данос на Акадэмію, нават на ЦК, на рэдакцыю газэты, дзе напісана, што Акадэмія аднаўляе, так сказаць, усхваляе лідэраў беларускага нацыяналізму. Вот такое. 250 старонак! Заангажыраван Інстытут гісторыі партыі, усе нашы інстытуты навучна-... Гэтыя 250 старонак пасланы ў Маскву, у ЦК КПСС (*З залі: Хто? Хто? Хто?*) Я ня маю права вам сказаць, таму што нідзе... (*На залі гукі незадаволенасьці*). Вы здагадваецеся... Здагадвайцеся самі.

Так вот, таварышы, вот я хачу сказаць, што сапраўды вот Ігнаценку, скажам, учора, так сказаць, лаялі з гэтай трыбуны. А ў тым абвінавачаньні напісана, што Ігнаценка — гэта галоўны, так сказаць, нацыяналіст, які, ну які, так сказаць, вядзе, вядзе ў Акадэміі гістарычную навуку ў балота нацыяналізму.

Так што, разумееце, усё-ткі трэба вот бачыць, у якой абстаноўцы мы працуем, таму што сапраўды цяпер многа галоснасьці, сыходзяцца, так сказаць, каса на касу, каса на камень. Абстаноўка вельмі вострая. Трэба трошкі, так сказаць, трэба трошкі разглядацца...

## НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ МЕНСКУ

У сёлетнім верасьнёўскім нумары (9-м) часапісу «Коммунист Белоруссии» пададзены нацыянальны склад жыхарства сталіцы БССР паводля перапісу 1979 году, калі ўсіх жыхароў у сталіцы налічвалася мільён 259 тысячаў. З гэтага Беларусаў было 68,7%, Расейцаў — 22%, Гэбрэяў — 3,7%, Украінцаў — 3,6%, Палякоў — 1,1%, Татараў — 0,2% і менш як па аднэй дзясятай працэнта іншых.

Статыстыка гэтая набывае значаньня асабліва цяпер, калі Беларусы, ня маючы ў сваёй сталіцы ніводнае школы, у якой навучаньне вялося-б поўнасьцяй па-беларуску, дамагаюцца выпраўленьня гэтай дыскрымінацыйнай русіфікатарскай палітыкі.

*Дакумэнты*

## МЭТЫ «ТАЛАКІ»

***Ад Рэдакцыі:*** *У некаторых артыкулах беларускага савецкага друку, у лістох у рэдакцыю газэтаў, асуджаецца дзейнасьць клюбу «Талака», але дасюль ні адна савецкая газэта не вытлумачыла, якія мэты «Талака» перад сабой ставіць, якімі прынцыпамі кіруецца.*

*«Талака», як выяўляецца, мае свой статут, тэкст якога рэдакцыя «Беларуса» нядаўна дастала. Ніжэй зьмяшчаем поўны тэкст першага разьдзелу гэтага статуту — «Мэты і задачы клюбу». Статут «Талакі» напісаны дарэформенным (дэрусыфікаваным) правапісам.*

* * *

І.1. Клюб аховы помнікаў «Талака» — самадзейная грамадзкая арганізацыя моладзі г. Мінску.

Мэты клюбу: патрыятычнае, інтэрнацыянальнае, працоўнае, эстэтычнае самавыхаваньне; фармаваньне ў сяброў клюбу актыўнай грамадзкай пазыцыі шляхам дзейснага ўдзелу ў ахове помнікаў, усіх здабыткаў беларускай культуры.

І.2. У сваёй дзейнасьці клюб кіруецца Канстытуцыямі СССР і БССР, законамі СССР і БССР «Аб ахове і выкарыстаньні помнікаў гісторыі і культуры», Статутам клюбу.

І.3. Клюб працуе ў шчыльным кантакце зь дзяржаўнымі, грамадзкімі і творчымі арганізацыямі.

Арганізацыямі-заснавальнікамі клюбу зьяўляюцца:

— Мінскі гарком ЦК ЛКСМБ

— Мінскае адзьдзяленьне Савецкага Фонду Культуры

— Вытворчае аб'еднаньне «Інтэграл».

І.4. Клюб змагаецца за ажыцьцяўленьне прынцыпаў дэмакратызацыі, публічнасьці, галоснасьці ў нашым грамадзтве (перадусім у сфэры нацыянальнае культуры), падтрымлівае экалягічныя, антываенныя і іншыя прагрэсыўныя рухі.

І.5. Клюб наладжвае сяброўскія сувязі з роднаснымі аб'яднаньнямі Беларусі і іншых рэспублік. Ладзяцца сумесныя талокі, вандроўкі, нарады, фэсты.

І.6. Дзеля зьдзяйсьненьня гэтых задач клюб праводзіць наступную работу:

а) ладзіцца праца на помніках і ахоўных зонах. Перавага надаецца помнікам унікальным і тым, што патрабуюць неадкладнага ўратаваньня.

Арганізацыя, дзе праводзілася праца, выдае клюбу даведку, у якой улічваецца зробленая работа і колькасьць талочнікаў. Асабіста сябры клюбу працуюць бязвыплатна. Колькасьць талок, адпрацаваных кожным сябрам клюбу, улічваецца. Актыўныя ўдзельнікі талок узнагароджваюцца адмысловымі знакамі клюбу.

У тых выпадках, калі работы, выкананыя клюбам, аплочваюцца, клюб альбо арганізацыя-заснавальнік заключае дамову з рэстаўрацыйнымі арганізацыямі. Грошы пералічваюцца на рахунак клюбу.

У тых выпадках, калі сябры клюбу былі кожны паасобку ўладкаваны на працу ў спэцыялізаваныя арганізацыі, то грошы, заробленыя імі падчас супольнай працы, яны па жаданьню могуць пералічыць на рахунак клюбу.

Калі аплаціць работу клюбу немагчыма, клюб можа працаваць бясплатна.

б) Сябры клюбу актыўна дапамагаюць дзяржаўным арганізацыям і ўстановам у справе выяўленьня, уліку, дасьледаваньня і выкарыстаньня помнікаў.

в) Сябры клюбу ўдзельнічаюць у абмеркаваньні плянаў рэстаўрацыйных работ, арганізуюць грамадзкі кантроль за іх выкананьнем.

г) Дзеля вывучэньня і прапаганды гісторыі культуры, традыцыяў шанаваньня спадчыны, заканадаўства аб ахове помнікаў, ленінскай нацыянальнай палітыкі клюб ладзіць лекцыі, дыспуты, заняткі, вечарыны, народныя сьвяты. Клюб таксама рыхтуе фотавыставы, слайдфільмы, экскурсіі, турысцкія вандроўкі; выпускае насьценгазэту, рукапісны альманах.

д) Дзеля абуджэньня грамадзкай думкі клюб распачынае і падтрымлівае дыскусіі ў сродках масавай інфармацыі па праблемах аховы помнікаў, развіцьця нацыянальнай культуры і інш.

І.7. Усе мерапрыемствы клюбу адкрытыя.

І.8. Уся клюбная дзейнасьць ажыцьцяўляецца ў вольны ад асноўнай работы час.

І.9. Калі дзейнасьць клюбу стане неэфэктыўнай альбо неадпаведнай мэтам гэтага Статуту, рашэньнем агульнага сходу клюб самараспускаецца.

**Паведамленьне**

## 8-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСОЎ АЎСТРАЛІІ

**12-15 студзеня 1989 г.
у Сыднэі**

**Праграма Сустрэчы:**

12 студзеня (чацьвер) — прыезд і закватэраваньне.

13 студзеня (пятніца) — а 10-й гадз. раніцы ў памешканьні Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Файрфільдзе адкрыцьцё Сустрэчы, нарады прадстаўнікоў Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі.
А 6-й гадз. ўвечары ў Доме Белага Арла, Канлей-Вайл, супольная вячэра.
А 8-й гадз. БАЛЬ СУТРЭЧЫ з мастацкімі выступленьнямі ўдзельнікаў.

14 студзеня (сыбота) — ПІКНІК цэлы дзень у ваколіцы Джорджэс-Гол.

15 студзеня (нядзеля) — а 10-й гадз. раніцы БОЖАЯ СЛУЖБА ў Бэнкстаўнскай праваслаўнай царкве.
А 12-й гадз. дня ў Беларускім Клюбе ДАКЛАД (тэма будзе паведамлена пазьней) і прыняцьцё рэзалюцыі, разьвітальны пачастунак і закрыцьцё Сустрэчы.

Пададзеная праграма — гэта прапанова Арганізацыйнага Камітэту, які просіць удзельнікаў прысылаць свае парады, заўвагі ці зьмены.

ЗАПРАШАЕМ І ЧАКАЕМ!

З даручэньня Камітэту
**М. Ціхан, старшыня**

# УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

## ГАЙЛЕНД-ПАРК, Н.-Дж.

68-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня былі адзначаныя тут стараньнямі Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. 26 лістапада вэтэраны ўпрыгожылі бел-чырвона-белымі сьцяжкамі магілы беларускіх патрыётаў на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку ды ўсклалі вянок пры помніку Гэроям Беларусі.

У нядзелю 27-га ў царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ па сьв. Літургіі а. Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду. Хорам кіраваў сп. Лёва Стагановіч. Стаяла вэтэранская сьцяжная варта.

Адбылася акадэмія, якую адчыніў кіраўнік ЗБАВ маёр Сяргей Гутырчык. Пасьля салюту сьцягу ЗША і малітвы «Беларусь, наша Маці-Краіна», др. Янка Запруднік, рэдактар газэты «Беларус», зрабіў даклад на тэму «Сучасная зброя абароны — інфармацыя».

Сп. Васіль Стома прачытаў рэфэрат пра цярніста-змагарны шлях Беларусаў ад часоў паўстаньня Кастуся Каліноўскага.

Сп. Антон Шукелайць, старшыня галоўнай управы БАЗА, у сваёй прамове адзначыў важнасьць перахоўваньня памяці пра магілы палеглых («Памятайце нашы магілы!» — быў кліч Беларускае Незалежніцкае Партыі пад нямецкай акупацыяй). Гэтую важную справу — перахоўваньне памяці пра магілы — вядуць цяпер беларускія вэтэраны на Чужыне.

Сп. Пятро Звонны выканаў пад акардыён колькі ваяцкіх песьняў, у тым ліку й песьні сайго аўтарства. Некатерыя зь іх былі дружна падхопленыя ўдзельнікамі ўрачыстасьці.

**Прысутныя прывіталі з днём нараджаньня сп.сп. Б. Даніловіча, Я. Азарку і В. Р.**

## РЫЧМАНД-ГІЛ, Н.-Ё.

**Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў у Нью-Ёрку адзначыла ўгодкі Слуцкага паўстаньня ў нядзелю 4-га сьнежня. У царкве Сьв. Кірылы Тураўскага пасьля сьв. Літургіі а. Усевалад Шэмяціла адслужыў паніхіду. Стаяла сьцяжная варта. Хор вёў сп. Васіль Шчэцька.**

У прыцаркоўнай залі, перад супольным абедам, адбылася акадэмія. Адчыніў яе сп. Кастусь Мерляк. Айцец Усевалад сказаў малітву. Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. В. Шчэцька. Дакладчык нагадаў падзеі зь лістапада-сьнежня 1920 году, а таксама зрабіў агляд апошніх падзеяў на Беларусі, у якіх, сказаў ён, бачыцца той самы дух, якім кіраваліся й случчакі — абарона нацыянальнае й палітычнае свабоды ды свае культурнае спадчыны.

На тэму бягучых падзеяў на Беларусі, пра «інфармацыйную блякаду» ў БССР гаварыў др. Янка Запруднік.

Сп. К. Мерляк выступіў з дакладам пра ўмовы, пры якіх можа адбыцца вызваленьне Беларусі (тэкст гл. у «Зважай» № 4 за лістапада 88 г.).

Была разыграная лятарэя ў таварыскай цёплай атмасфэры.

## ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Слуцкія ўгодкі адбыліся тут у гасподзе сп-ні Е. Дамброўскай. Па адыграньні беларускага й аўстралійскага нацыянальных гімнаў зьместоўны рэфэрат на тэму дня прачытаў паангельску старшыня Беларускага Аб'яднаньня ў Зах. Аўстраліі сп. Леў Дамброўскі. М. Р. прачытаў пабеларуску даклад пра збройнае змаганьне ў 1863 годзе. На аснове параўнаньняў таго, што пісалі пра паўстаньне Каліноўскага тагачасныя газэты, з выказваньнямі савецкіх гісторыкаў, дакладчык паказаў, што ў шмат якіх выпадках фальсыфікацыяй займаліся і адны і другія. Даклад быў выслуханы зь вялікім зацікаўленьнем.

Памяць сяброў, што адыйшлі ў вечнасьць, была ўшанаваная прачытаньнем іх прозьвішчаў ды хвілінай маўчаньня.

**Р.**

## АДЭЛЯЙДА, АЎСТРАЛІЯ

Вялікая колькасьць людзей сабралася тут у нядзелю 27 лістапада ў царкву Сьв. Пятра й Паўла БАПЦ, каб ушанаваць памяць гэрояў Слуцкага паўстаньня. Пасьля сьв. Літургіі а. Міхась Бурнос адправіў паніхіду за тых, хто аддаў сваё жыцьцё, каб жыла Беларусь.

На ўрачыстасьці ў прыцаркоўнай залі выступіў мяшаны хор пад кіраўніцтвам У. Калесьніковіча, выканаў беларускі нацыянальны гімн і жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў». Пасьля рэфэрату на тэму дня выступалі жаноцкі і мяшаны хоры зь беларускімі патрыятычнымі й народнымі песьнямі. Выступіў таксама дэкляматар Віктар Зелянеўскі.

Супольны пачастунак зь вельмі смачнай ежай прайшоў у прыемным і вясёлым настроі.

**У. Акавіты**

# НОВАЕ КАМАНДАВАНЬНЕ ЗБАВ

Як паведамлялася ўжо ў газэце «Беларус» і ў «Вестках і Паведамленьнях» БАЗА, 30 кастрычніка сёлета адбыліся перавыбары кіраўніцтва Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. Сход адчыніў каманьдзер ЗБАВ Сяргей Гутырчык. Хвілінаю маўчаньня ўшанавалі памяць адышоўшых на вечны супачын сяброў Задзіночаньня.

У прэзыдыюм сходу аднагалосна выбралі сп.сп. Пятра Кажуру за старшыню й Міхася Тулейку за сакратара.

Дэтальную справаздачу зь дзейнасьці ЗБАВ здаў кмд. Сяргей Гутырчык. Фінансавую справаздачу зробіў скарбнік Янка Азарка. Былі прачытаныя справаздачы сакратара Лявона Шурака ды з адздзелу ЗБАВ у Агаё. Папярэдняму камандаваньню ЗБАВ была прызнаная падзяка.

Новае кіраўніцтва ЗБАВ выбранае ў наступным складзе: С. Гутырчык — каманьдзер галоўнае кватэры ЗБАВ, Ул. Курыла — віцэ-каманьдзер, Л. Шурак — сакратар, Я. Азарка — скарбнік, В. Дубяга — сяржант парадку, Ул. Машанскі — сябра ГК і заступнік сакратара, Янка Каваленка — каманьдзер адздзелу ЗБАВ у Агаё ды афіцэр сувязі на штаты Агаё й Мічыган. Павал Кулеш надалей астаецца арганізацыйным рэфэрэнтам у справах ЗБАВ на штат Мэйн. Пятро Кажура, Віктар Дубяга й Алег Дубяга й надалей астаюцца дэлегатамі ад ЗБАВ у Вэтэранскім Саюзе Рарытанскае Даліны.

З вышэй названых афіцэраў складаецца галоўная кватэра (штаб) Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў зь сядзібаю ў штаце Нью-Джэрзы.

У Кантрольную Камісію ўвайшлі: В. Р., Міхась Тулейка й Адольф Субота.

**Пасьля выбараў красамоўна прамаўляў старшыня галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелайць. Ад Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі вітаў вэтэранаў старшыня АБАМ сп. Юрка Азарка. Сход закончыўся беларускім гімнам.**

**Нельга не падзякаваць тут сп-ні Літвіне Гутырчык за падрыхтаваньне такіх смачных бутэрбродаў. Беларускі шчыры дзякуй!**

**Сяргей Пчала**

*З жыцьця ў Кліўленьдзе*

## ДЗЕНЬ АРХАНГЕЛА МІХАІЛА

Нашая царква Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленьдзе ўрачыста адзначыла 21 лістапада дзень Архангела Міхаіла. Сьв. Літургію адслужыў Пратаярэй а. Міхал. Пасьля Літургіі адслужыў малебень ераманах а. Якуб за ўсіх Міхаілаў, а ў казані асабліва адзначыў заслугі Прат. а. Міхала ды прывітаў яго гарачымі словамі і ўручыў букет сьвежых кветак. Айцу Міхалу хор пад кіраўніцтвам Іры Сьмірновай прасьпяваў «Многая лета».

Сп-ні Вольга Стрэчань, Клаўдзія Каляда й Зося Лукашэвіч наладзілі стол із смачнаю ядою і пітвом.

Ераманах а. Якуб сказаў «Ойча наш», прасьпявалі «Многая лета» іменіньніку. Айцец Міхал прывітаў усіх са сьвятам Архангела, пажадаў добрага здароўя й мірнага жыцьця ды падзякаваў усім за падарункі, асабліва а. Якубу за яго так вялікую прыхільнасьць ды адданасьць Царкве й беларускай грамадзе ў Кліўленьдзе.

**Пр.**

## У АБАРОНУ М. КУКАБАКІ

У Лёндане група актывістаў зь Міжнароднай Амністыі правяла 30-га кастрычніка сёлета аднадзённую галадоўку й вахту ў абарону Міхала Кукабакі, беларускага вязьня сумленьня ў Савецкім Саюзе.

Дзень 30-га кастрычніка штагоду адзначаецца іншадумцамі ў Савецкім Саюзе ды іхнымі прыхільнікамі ў вольным сьвеце, як Дзень Палітычнага Вязьня.

Вахта мела актыўны характар. Заняўшы месца на Камдэнтаўнскім кірмашы, дзе бывае мноства людзей рознай нацыянальнасьці, актывісты зьбіралі подпісы пад пэтыцыяй аб вызваленьні Міхала Кукабакі й дазволе яму выехаць з Савецкага Саюзу, чаго ён і дамагаецца. Пэтыцыі з подпісамі былі пазьней дарučаныя савецкаму пасольству, а копіі высланыя на імя Фёдара Бурлацкага, старшыні савецкай Камісіі Правоў Чалавека.

Беларусы Лёндану ўзялі ўдзел у дэманстрацыі ды выказалі ўдзячнасьць сябром Міжнароднай Амністыі за іхную непахісную веру ў нявіннасьць Міхала Кукабакі й шматгадовыя дамаганьні ад савецкіх уладаў ягонага звальненьня з турмы й дазволу яму на выезд з СССР.

**А. З.**

# КНІГА ДАКУМЭНТАЎ ПРА СКАРЫНУ

В. І. Дарашкевіч. *ФРАНЦЫСК СКАРЫНА. Зборнік дакументаў і матэрыялаў.* Менск: «Навука і тэхніка», 1988, 250 б. Тыраж: 2650 экз.

Быў час, калі ў партыйным друку БССР згадваць Скарыну — тады «ворага народу» — не выпадала. А калі ў нейкіх гістарычных нарысах абмінуць яго было немагчыма, тады пісалася пра «Георгія» Скарыну, а не пра Франьцішка. Адмоўнае стаўленьне да Скарыны пасьля паволі пачало мяняцца. У друку БССР сталі зьяўляцца артыкулы і з пазытыўнай ацэнай Скарыны.

Апошнімі гадамі, з паслабленьнем партыйнага нагляду над друкам, эдараюцца й паважныя навуковыя разгляды культурнай спадчыны Ф. Скарыны. Гэты скарынаведны рух ажывіўся асабліва цяпер, з надыходам 500-гадовага юбілею знакамітага выдаўца Бібліі ў беларускай мове.

Вельмі мала ведамая была ў БССР і *біяграфія* Скарыны. Над ёй вісела там цёмная «заслона» — заслона звычайнай няведы новараскрытых фактаў. Гэта трывала доўга й тады як над гэтай біяграфіяй нясупынна працавалі, і з багатымі вынікамі, замежныя дасьледнікі гісторыі культуры Беларусі XVI стагодзьдзя.

Ужо чвэрць стагодзьдзя мінае як Ф. Скарыну адводзіць сваю ўвагу Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНіМ). Інстытутам ды іншымі ўстановамі на Захадзе за гэты час была апублікаваная цэлая чарада важных дасьледных працаў пра доктара Скарыну й ягоную культурна-духовую спадчыну. Былі пры гэтым выяўленыя новыя дакумэнты ды нанава ўважней разгледжаныя раней ведамыя.

В. Дарашкевіч, калі пачынаў зьбіраньне матар'ялаў для свае кніжкі, меў перад сабой дарогу добра «пратаптаную» — дакумэнты й матар'ялы пра Скарыну былі ўлічаныя, шмат якія й публікаваныя, камэнтаваныя. Па кнізе відаць, што ейны складальнік з гэтага шмат карыстаў, чэрпаў гатовае, хоць пра гэта ён блізу зусім ня згадвае. Калі-ж здарыцца яму што з гэтага назваць — друкаванае ўжо ў «Запісах» БІНіМ ці лёнданскім Journal of Byelorussian Studies, — дык не падае тады, якія ўстановы гэтыя публікацыі выдаюць. Дык хоць зьмяніўся сам падыход да Скарыны, укладальнік кнігі, відаць, яшчэ не пасьпеў «перабудавацца», пішa й далей на стары савецкі лад, не пасьпеў асвоіць традыцый і прынцыпы «гласности» ў публікацыях навуковага прызначэньня.

Кнігай В. Дарашкевіча ахопленая тая дакумэнтацыя пра Ф. Скарыну, якая чым-небудзь раскрывае розныя факты ягонага жыцьця. У ёй каля 70 актавых запісаў, летапісных вестак ды розных іншых матар'ялаў, часам і вельмі праблематычнай сувязі з Ф. Скарынам. Дадзеныя ў кнізе, калі трэба, і пераклады іх з моваў лацінскай, нямецкай, чэскай. Укладальнік кнігі важнасьць некаторых матар'ялаў прыгэтым затярэчвае. Чэскую вестку пра тое, што ў вялікім пажары Прагі 1541 году трагічна загінуў малы сын Скарыны, Франьцішак, Дарашкевіч збывае фразай, што ў вестцы згадваецца «нейкі іншы ўсходняславянскі Рус», а не Скарына. Такая інтэрпрэтацыя ўкладальніку патрэбная, каб абсанаваць сваё дапушчэньне пра час сьмерці Ф. Скарыны — 1552/53 год. А. В. Флароўскі яшчэ ў 1930-х гадох гэты час азначыў на 1540/41 год — перад пажарам Прагі.

Незважаючы на некаторыя недакладнасьці і «агрэхі», кніга Дарашкевіча — карыснае выданьне найперш тым, што ў вадным месцы цяпер сабраны той матар'ял біяграфіі Ф. Скарыны, які дагэтуль быў раськіданы па розных архівах або ў розных публікацыях XVI-XX ст.ст. Кніга, нажаль, ня мае рэпрадукцыяў арыгіналаў дакумэнтаў, а толькі іх тэксты. Зацікаўленаму чытачу гэта не дае магчымасьці, калі паўстаюць нейкія сумлевы, справу спраўдзіць. Гэта паважны недастатак кнігі. БІНіМ сваім часам апублікаваў усе падуанскія запісы і некаторыя іншыя, зрабіўшы гэта дакладней — даў рэпрадукцыі арыгіналаў, лацінскія іх тэксты, беларускія пераклады. Так была апублікаваная й чэская грамата 1553 г. караля Фэрдынанда.

**Лік выяўленых актаў, дакумэнтаў, матар'ялаў пра Ф. Скарыну ўвесь час расьце і разам з гэтым паволі разьясьняецца воблік выдатнага Палачаніна. Цяпер, у часе 500-гадовага юбілею, кажная публікацыя пра Ф. Скарыну, калі нечым да гэтага спрычыняецца, стаецца, карыснай.**

**Р. М.**

*Ліст у Рэдакцыю*

## АСПРЭЧВАЮЦЬ НЯ ВЕДАЮЧЫ ГІСТОРЫІ

Паважаная Рэдакцыя!

Расейская газэта «Русская Жизнь», што выдаецца ў Сан-Францыска, зьмясьціла мае два допісы (26.IV і 25.IV.88) у адказ на артыкул у тэй-жа газэце (5.III.88) нейкага Абданк-Касоўскага, які пярэчыць існаваньню асобнага Беларускага народу. Дарэчы, у абарону Беларусаў ліст у рэдакцыю «РЖ» напісаў таксама А. Яцэвіч (11.VIII.88). І цяпер у адказ на ўсё гэта зьявіўся ў «РЖ» шэраг водгукаў.

Цікава, што аўтары кожнага ліста, як змовіўшыся, пачынаюць сваю гутарку з выказваньняў пачуцьця пашаны да Беларусаў і пішуць толькі «дзеля аб'ектыўнасьці». Але заканчваюць свае лісты словамі далёкімі ад пачуцьця пашаны. У іх адчуваецца іронія, якая пераходзіць у абразу і нават варожасьць да беларускай мовы, літаратуры, гісторыі.

Гэтак, С. Алёхін у сваім лісьце (11.VII) вучыць мяне прагматызму, спрабуючы ўгаварыць адмовіцца ад беларускай мовы, як мовы «непэрспэктыўнае». У сваёй грубіянскай «аргумэнтацыі» Алёхін кажа, што «ўсе афрыканскія народы новаствораных дзяржаваў у ААН размаўляюць на чужых мовах». «Хоць гэтыя народы, — запэўнівае ён мяне, — любяць сваю родную мову мацней, чым якуюсьці ангельскую. Тут справа ня ў эмоцыях, а ў жыцьці».

Што агульнага мае беларуская мова з мовамі афрыканскіх народаў? Гэтая загадка ведамая толькі сп. Алёхіну. Няхай-жа яму будзе таксама ведама, што ўся прывілеяваная частка жыхарства калішняе дарэвалюцыйнае Расеі размаўляла пафранцуску ня толькі ў міжнародных кантактах, але нават у сябе ўдома. Алёхіну напэўна ведама, што нават Аляксандар Пушкін да пяцігадовага веку ня ведаў тае мовы, у якой пазьней ён гэтак моцна праславіўся. Чаму-ж тады Расея не зрабіла так, як, паводля Алёхіна, цяпер павінны рабіць Беларусы?

Алёхін кажа, што шмат якія, калі ня ўсе, чытачы «РЖ» абражаныя маёй заўвагай аб тым, што беларускі паэт Янка Купала быў вялікім паэтам. «Хто з чытачоў («РЖ»), ня кажучы ўжо пра Французаў, Немцаў і г.д., — пытаецца Алёхін, — чытаў што з твораў гэтага добрага ведамага Беларусам паэта?» Ня чытаўшы Янкі Купалы, Алёхін чамусьці лічыць сябе кампэтэнтным меркаваць аб велічы паэта, якога любяць ня толькі ўсе Беларусы.

У іншым лісьце ў рэдакцыю «РЖ» (15.IX) Н. Нефедаў дакарае сп. Яцэвіча, які сказаў, што беларускія князі ў Вялікім Княстве Літоўскім называліся літоўскімі. Паводля Няфедава, Беларусь «была пад панаваньнем Літоўцаў і ўваходзіла ў ВКЛ, як ягоная правінцыя». Гэта ён вычытаў, быццамбы, у неназваных ім працах нямецкіх, галяндзкіх і польскіх гісторыкаў. Абвяшчаць «праўду» непараўнальна лягчэй, чым яе шукаць.

Зрабем кароткі экскурс у гісторыю. Пачнем з таго, што тэрыторыя ВКЛ прынамся на тры чверці складалася зь беларускіх княстваў. Роля гэтых княстваў была вядучай як у эканамічнай і палітычнай, гэтак і ў культурнай сфэрах. Аб гэтым сьветчыць той факт, што беларуская мова была афіцыйнай у ВКЛ яшчэ пры Альгердзе ў XIV ст. **Беларускаю мовай карысталіся князі ВКЛ ня толькі як афіцыйнай, але і ў побыце. Пабеларуску выдаваліся законы, вялося справаводзтва, вяліся заняткі ў школах. Паколькі літоўская пісьменнасьць пачалася фактычна толькі ад палавіны XVI ст., беларускай** мовай пісалі нават на тэрыторыі этнаграфічнай Літвы.* Усім, хто хоць крыху знаёмы зь гісторыяй ВКЛ, павінна быць ведама, што збор законаў у гэтай дзяржаве — Статут ВКЛ — быў напісаны ў тагачаснай беларускай мове.

Сваім часам А. Пушкін у адным із сваіх вершаў, зьвяртаючыся да ворагаў расейскіх вялікадзяржаўнікаў, пісаў:

Что возмутило вас? волнение Литвы?
Оставьте: это спор славян между
собою...

Хацелася-б запытаца ў Нефедава: каго меў на ўвазе Пушкін, пісаўшы гэтыя радкі? Паміж кім былі спрэчкі? Няўжо Нефедаў думае, што Пушкін штосьці пераблытаў альбо ня ведаў, што сёньняшнія Літоўцы зусім не Славяне? Не, цьверджаньнем сваім, што Беларусь ня была самастойнай дзяржавай, а была пад панаваньнем Літоўцаў, Нефедаў паказвае не гістарычны факт, а паўтарае вялікадзяржаўную выдумку.

Нефедаў кажа, што «Беларусь была адабраная ад Літвы законна, як расейская зямля». Вось дзеля гэтага яму й трэба было, перакручваючы гісторыю, паказаць Беларусаў не як асобны самастойны народ, а як людзей-расейцаў, што так і імкнуліся быць «вызваленымі» «старэйшым братам». Запраўдная гісторыя не патрэбная для такіх «палемістаў» як Нефедаў.

Але, дзякаваць Богу, цывілізаваны сьвет на баку паняволеных народаў. Я пэўны, што праўда ўрэшце пераможа. Нацыянальнае адраджэньне народаў, сілаю заціснутых у Савецкі Саюз, ужо пачынае сябе паказваць. Свабода асобам і свабода народам няўхільна крочыць наперад. Яна прыйдзе да ўсіх народаў нашай плянэты. Вось тады, я веру, і нашая дарагая Беларусь зойме, як прарочыў вялікі Янка Купала, сваё пачэснае месца ў сям'і вольных народаў сьвету.

**Расьціслаў Завістовіч**

---

**«Дасьледнік А. К. Антановіч у кнізе 'Язык судебной (актовой) книги Каунасского земского суда 1566-1567 гг.' (Вильнюс, 1961) адзначае, што мова дакумэнтаў,** напісаных у XVI ст. у Коўне, зусім супадае з мовою беларускіх грамат гэтага часу. На беларускай мове пісалі на тэрыторыі этнаграфічнай Літвы ня толькі Беларусы, а й Літоўцы». — Ф. Янкоўскі, *Гістарычная граматыка беларускай мовы,* ч. I (Мінск, 1974), б. 42. (Рэд. «Б-са»).

## ПАДЗЯКА

Карыстаючыся ветлівасьцяй газэты «Беларус», хачу шчыра падзякаваць усім тым, што наведвалі майго мужа, сьв. пам. Часлава Ханяўку, у часе ягонай доўгай хваробы дома або ў шпіталі, а пасьля сьмерці ўзялі ўдзел у пахавальных абрадах, прыслалі кветкі, выказалі спачуваньні.

Шчыра дзякую!

**Марыя Ханяўка зь сям'ёй**

### ЦАНА «БЕЛАРУСА»

**У выніку росту коштаў паперы й рассылкі газэты мы змушаныя падняць цану паасобнага нумару да двух даляраў, а цану гадавое падпіскі да 20 даляраў, пачынаючы ад 1-га студзеня 1989 году.**

**Выдавецтва «Беларус»**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдне ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| БАЗА, Нью-Ёрк | ам.дал. 200 |
| В. і З. Кіпель | 200 |
| А. Кіпель | 100 |
| Ю. Кіпель | 100 |
| М. Кіпель | 100 |
| К. Мерляк | 100 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 70 |
| В. і М. Махнач | 50 |
| Б. Грабінскі | 50 |
| В. Станкевіч | 40 |
| БІНіМ | 40 |
| БАЗА | 40 |
| М. Грэбень | 40 |
| С. Парэцкая | 35 |
| А. Чарнэцкая | 30 |
| У. Бакуновіч | 30 |
| М. Кулагін | 25 |
| М. Вайтовіч | 25 |
| Т. Грынчук | 20 |
| С. Дудар | 20 |
| Э. Маркоўская | 20 |
| Я. Юхнавец | 20 |
| Н. Жызьнеўскі | 20 |
| В. Рамук | 20 |
| В. Шчэцька | 10 |
| Я. і В. Яновіч | 10 |
| Усяго | 1415 |

*За калядныя віншаваньні:*

| | |
|---|---|
| Н. і А. Жызьнеўскі | ам. дал. 40 |
| В. Кажан | 30 |
| К. Муха | 25 |
| а. М. Страпко | 20 |
| В. і М. Пашкевічы | 15 |
| В. Станкевіч | 10 |
| А. Лашук | 10 |
| А. Шукелайць | 10 |
| Я. Запруднік | 10 |
| Ю. і Ч. Найдзюк | 10 |
| Р. Станкевіч | 10 |
| А. Чарнэцкая | 10 |
| Усяго | 200 |

*Замест кветак на магілу сьв. пам. Зінаіды Станкевіч:*

| | |
|---|---|
| У. Набагез | 100 |
| Я. Кахаnoўская й сям'я Андрусышыных | 100 |
| Бел.Ам. Задз. Жанчын у Клііўленьдзе | 100 |
| Г. і В. Русак | 50 |
| Я. Запруднік | 50 |
| Сям'я Орса-Рамана | 50 |
| У. і А. Русак | 40 |
| Я. і М. Азарка | 25 |
| Усяго | 415 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| А. і Э. Даніловіч з нагоды 80-годзьдзя мужа й бацькі | 80 |
| Я. Дзядовіч у памяць дарагога мужа Дзьмітра | 40 |
| Н. Гурын | 25 |
| А. Палескі | 20 |
| А. Нэстар | 15 |
| Т. Януш | 15 |
| В. Ярашэвіч | 10 |
| М. К. | 10 |
| Б. Даніловіч | 10 |
| С. Гутырчык | 50 |
| В. Русак | 30 |
| Ю. Азарка (замест вянка на магілу с.п. З. Станкевіч) | 25 |
| Адзьдзел БАЗА у Н.-Дж. | 25 |
| Адзьдзел ЗБАВ у Н.-Дж. | 25 |
| а. А. Яноўскі | 20 |
| А. Васанскі | 20 |
| А. Субота | 20 |
| П. Талмачэвец | 15 |
| М. Ігнатовіч | 15 |
| М. Каранеўскі | 10 |
| Ю. Азарка | 10 |
| А. Дубяга | 10 |
| В. Дубяга | 10 |
| а. Васіль | 10 |
| В. Стома | 10 |
| У. Сьліўка | 10 |
| К. Міpановіч | 10 |
| П. Кажура | 10 |
| А. Кажура | 10 |
| Я. Азарка | 10 |
| У. Харавец | 10 |
| А. Сільвановіч | 10 |
| М. Сапежынскі | 10 |
| М. Тулейка | 10 |
| А. Балкоўскі | 10 |
| А. Супрун | 10 |
| Я. Сапежынскі | 10 |
| Я. Літвіненка | 10 |
| У.М. за А.К. | 5 |
| Усяго | 665 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| Лістапад | ам. дал. 795 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Г. Шайпака:*

| | |
|---|---|
| М. Скабей | аўстр. дал. 75 |
| Г. Шайпак | 100 |
| М. Швэд | 25 |
| Сп-тва Кукель | 30 |
| Я. Валенцёнак | 25 |
| А. Груша | 50 |
| У. Сідлярэвіч | 40 |
| М. Нікан | 40 |
| П. Гуз | 25 |
| Ф. Лашук | 30 |
| М. Шэко | 35 |
| Н. Сікорская | 25 |
| С. Каранеўскі | 90 |
| З. Кадняк | 30 |
| Я. Яшчэнка | 25 |
| Л. Яцкевіч | 25 |
| В. Каралюк | 25 |
| Н. Сэсэтка | 25 |
| Усяго | 745 |
| У ам. дал | 633 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | |
|---|---|
| Іна Саўка | ам. дал. 36 |

(у № 351 памылкова было запісана на П. Барысіка)

**Шчырая падзяка ўсім прадстаўнікам, падпісчыкам і ахвярадаўцам!**

**Выдавецтва «Беларус»**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

**Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва атрыманыя ахвяры:**

| | |
|---|---|
| Ананімны ахвярадаўца | аўстр.дал. 1000 |
| М. Скабей | 100 |
| М. Нікан | 100 |
| А. Груша | 50 |
| Г. Шайпак | 50 |
| А. Кукель | 50 |
| З. Кадняк | 20 |
| А. Грынько | 10 |
| М. Шэка | 5 |
| І. Валенцёнак | 5 |
| М. Тэрэшкевіч | 5 |
| Н. Яўневіч | 2 |
| Разам аўстр. дал. | 1397 |
| | ам. дал. 1359,74 |

Управа БІНіМ'у шчыра дзякуе ўсім ахвярадаўцам, а сп. Скабею падзяка і за ахвяру і за ініцыятыву зьбіраньня.

**НА БЕЛАРУСКІ КРЫЖ У КАНАДЗЕ**

| | |
|---|---|
| Я. і І. Сурвілы | кан. дал. 100 |
| А. Маркевіч | 25 |

**НА ДАПАМОГУ БЕЛАРУСАМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**

*Склалі ахвяры:*

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | 100 |
| А. О.-Р. | 50 |
| Г. Тэдон | 50 |
| Я. Азарка | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| М. Т. | 10 |
| М. А. | 20 |
| С. Гутырчык | 20 |
| П. Кажура | 10 |
| У. Харавец | 20 |
| М. і В. Заморскі | 20 |
| Ю. Азарка | 20 |
| Ф. Бартуль | 20 |

**Шчыра дзякуем усім ахвярадаўцам і жадаем Вясёлых Калядаў!**

**Ала Орса-Рамана**
**Юля Андрусышына**

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона й Юрка*
*Акула Надзея, Кастусь, Юрка й Альгерд*
*Андрусышын Юля, Павал, Юрка й Данчык*
*Андрэюк а. Васіль, матушка Вольга і дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Балкоўскія Зофія, Аляксей і Янка*
*Балкоўскія Лорэнс, Янка й Аляксандар*



*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Жук-Грышкевіч Раіса й Вінцэнт*
*Заморскія Вера, Мікалай, Таня й Ніна*
*Запруднік Янка й Вера*
*Здановіч Алесь*
*Кажан Люба й Віталь, Маргарыта й Юля зь сем'ямі*
*Кажура Марыя й Пётра*
*Кажура Элен і Альгерд*
*Калоша Кастусь*
*Каляда Клаўдзія й Юрка*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Данусь й Міхась малодшы*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Марыя*



*Норык Кінуся, Лёня й дзеці*
*Орса Пётра зь сям'ёй*
*Орса-Рамана Ала й Францішк, Павал і Коля*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Рамук Вера й Вітаўт зь дзецьмі*
*Сапежынская Алена, Якуб, Мацей і Мікалай*
*Сільвановіч Міхась, Ніна, Аляксандар і Андрэй*
*Скабей Мікалай*



*ДАБРАВОЛЬНА, БЯЗ ПРЫМУСУ ДАПАМОЖАМ «БЕЛАРУСУ»!*



*Бартуль Вера, Франьціш і Антон*
*Бяленіс Людвіка й Антон*
*Войтэнка Марыя*
*Грабінскі Балеслаў*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й Сяргей*
*Даніловіч Аляксандра, Браніслаў і Эдзік*
*Дубяга Зофія, Жэня, Алег, Юльян і Тамаш*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*



*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Юрка*
*Кляйнбах Элеанора, Эмілія й Джаш*
*Кулеш Ніна й Павал*
*Кушаль Натальля*
*Кэн Рагнеда, Валэра й Язэп*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лужынскія Надзея, Міхась, Гэлена й Нэля*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Мерляк Ганна, Кастусь і Вінцусь*
*Мірановіч Поля, Кастусь, Янка й Каця*
*Місюль Янка*
*Міхалюк Лёля й Янка*
*Муха Клава, сын Ігар і Дэніс*
*а. Надсон Аляксандар*
*Найдзюк Юзэфа й Часлаў зь сям'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Нікан Лена й Мікола*



*Стагановіч Аляксандар і сям'я*
*Станкевіч Джоан, Вячка й хлопцы*
*Станкевіч Раіса*
*Стома Ніна й Васіль*
*Прат а. Страпко Міхась зь сям'ёй*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Супрун Анна й Тамаш*
*Сурвіла Івонка й Янка зь дзецьмі*
*Сьліўка Ўладзімер (Валодзя)*
*Сяўковіч Янка*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Ханенка Ліда й Янка*
*Харавец Галя, Уладзімер (Валодзя)*
*Шукелайць Антон*
*Шуст Галена й Мікола*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Юхнавец Іра, Янка, Канстантын*
*Яновіч Валя й Янка*



**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ УСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**



**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
*вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ 1989 ГОДАМ!**



**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

*Шчыра вітае ўсіх сваіх вернікаў, усіх суродзічаў-Беларусаў і прыяцеляў БАПЦ з Раством Хрыстовым і Новым 1989 годам. Няхай Усемагутны ахоўвае ўсіх нас Сваёй апекай і дазваляе нам спакойна маліцца ў нашых сьвятынях. Будзем-жа прасіць і надзеяцца на Ягоную ласку.*
*Ветліва просім пасылаць калядныя ахвяры на Кансысторыю БАПЦ.*

*BAOC (Attn. Mr. Silwanovich), 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904*

*За Вашую дапамогу будзем Вам шчыра ўдзячныя.*
*Няхай ласка Божая будзе з Вамі.*
*З даручэньня Першагіерарха БАПЦ*
*Архіепіскапа Мікалая*
**Архім. а. Карп Стар**



***ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ***
жадае сваім сябром і прыхільнікам
***ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ***
***і***
***ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!***



**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ-ДЖЭРЗЫ (ЗША)**
*вітае ўсіх сваіх супрацоўнікаў і прыхільнікаў*
**З КАЛЯДНА-НАВАГОДНІМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае ўсякае памыснасьці*
*ў асабістым жыцьці і грамадзкай працы!*



***ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА***
***АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ***
*вітае сваіх сяброўак і сяброў ды ўсё беларуска-амэрыканскае грамадзтва з*
***КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ 1989 ГОДАМ!***
*Чакайце на нашых калядоўшчыкаў*
*8 студзеня ў Нью-Джэрзы, а 14-га ў Нью-Ёрку!*



***УПРАВА ПАРАФІІ ЖЫРОВІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ БАПЦ***
**у Гайленд-Парку, Н.-Дж.**
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў і прыяцеляў*
***З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ***
*ды жадае добрага здароўя*
*й шмат шчасьця ў НОВЫМ ГОДЗЕ!*



**УПРАВА АДЗЬДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ**
**ДЫ ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!**